# Самапомач Гаспадарам

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

Год VII. Вільня, Сакавік 1938 г. № 3 (77).

Аб чым піша «Самапомач»:



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.




# Аб земляробстве ў Сойме

Сёлетняя бюджэтная сэсія польскага Сойму хоць і не займалася справамі беларускага сялянства, як такога, — у цяперашнім Сойме і Сэнаце няма ніводнага беларуса — то аднак, асабліва пры абгаварываньні бюджэту Міністэрства Земляробства, гаварылі не аб аднэй справе, якая беларусаў у Польшчы жыва абходзіць.

Наўперад зазначыць трэба, што паслы выразна падзяліліся на дзьве часьці, якія можна было-б назваць часьцю **сялянскай** і часьцю **абшарніцкай**. Падчас калі першая часьць выразна падтрымывала сучаснага міністра земляробства Панятоўскага, дык другая ня менш выразна супроць яго выступала.

Прадстаўнікі абшарнікаў не ласкавы на мін. Панятоўскага галоўным чынам за тое, што ён быццам за сільна парцэляваў панскія двары, раздрабляючы гэтак зямельную ўласнасьць і аслабляючы агульную здольнасьць земляробскай прадукцыі. З сваей стараны гэтыя-ж самыя абшарнікі дамагаліся між інш. падвышкі цаны за зямлю (браную пад парцэляцыю?), за лес і ўстанаўленьня адумысловых прэміяў (нагародаў) за прадукты прадаваныя за граніцу. Скрось гэтыя выразныя дамаганьні абшарнікаў адчувалася жаданьне наагул устрымаць зямельную рэформу (парцэляцыю). Выразна аднак гэтага жаданьня абшарнікі ставіць баяліся, ня хочучы хіба паказаць сябе праціўнікамі касьцельных кругоў (г. зв. Каталіцкай Акцыі), якія праз свой Грамадзкі Камітэт (Komitet Społeczny) выказаліся анагдай іменна за зямельную рэформу.

Супроць абшарнікаў выступалі прадстаўнікі польскага сялянства. Гэтая часьць паслоў агулам бараніла міністра, з свайго боку дамагаючыся: скасаваньня парцэляцыі прыватнай, абніжэньня цаны на штучныя гнаі і земляробскія машыны і дальшага праводжаньня казённай парцэляцыі буйных абшараў. Паслы-сяляне паклікаліся на тое, што прыватная парцэляцыя сама сабой падыймае цэны на зямлю, якой сяляне ня могуць дакупіцца. Гэта для сялян ёсьць крыўда. Нічога акрамя шкоды ня маюць так-жа сяляне і з вывозных прэміяў, бо прадукуюць перад усім на ўласныя патрэбы.

Трафам так сталася, што галоўным праціўнікам сялян і заступнікам інтарэсаў абшарніцкіх у Сойме стаўся пасол так-жа з радоў сялянскіх. Гэта аднаму з сялянскіх паслоў прывяло на памяць словы сялянскага пісьменьніка, які казаў што „...як толькі мужык („хлоп“) польскі падыймецца вышэй, дык зараз стараецца стацца падобным да дворнага пана...“, і што „мужык павінен перад усім „адшляхціцца“, каб магчы павясьці ў Польшчы лепшыя парадкі...“

Прыдалася-б хіба гэта навука і сялянам ня толькі польскім.

---

*Да гэтага нумару далучаюцца разрахунковыя пераказы, якімі просім пераслаць належную за „Самапомач“ падпіску.*

---

# Сумныя лічбы і што яны кажуць

Пісала „Самапомач“ летась увосені аб тым, што ў цэнтральнай Польшчы, далёка за Варшавай, будуецца цяпер гэтак званы Цэнтральны Прамысловы Вокруг (папольску — „Centralny Okręg Przemysłowy — C.O.P.“, ці як яго раней называлі С.О.—S.). На будову гэтага Вокругу (розных фабрыкаў) ідуць вялікія сумы з грошаў сабраных з падаткаў.

Пры канцы леташняга году ў Вільні адбылася нарада, якую назвалі „гаспадарчай“. Былі на гэтай нарадзе розныя высокія людзі з Варшавы і мясцовыя. Многа тады яны абяцалі, што будуць рабіць для падняцьця гаспадарчага жыцьця нашага краю. Мінае тры месяцы ад таго часу. Нічога неяк аб спаўненьні абяцанак ня чуваць. Прынамся нічога добрага. Бо вось больш як два гады ўжо валкавалася справа пабудаваньня пад Вільняй вялікай электроўні, якая мела-б выраблять танную электрычную сілу. На гэта былі ўжо быццам і грошы. І раптам кажуць цяпер, што ўсё гэта ўзноў адкладаецца. Чаму?..

Быццам у адказ на гэта пытаньне, гаспадарская прэса зьмяшчае цэлы рад лічбаў, якія ясна паказваюць, што гэткае абмінаньне найжывейшых патрэбаў нашага краю ня ёсьць нейкім асобным вырваным выпадкам. Бо і як-жа?

Падчас, калі на прасторы ўсяе Польшчы на 100 кв. клм у сярэднім выпадае 15 клм. бітых дарог, дык у Віленшчыне такіх дарог ёсьць толькі 5.5 клм., у Наваградчыне — 8 клм., а на Палесьсі — паўтраця (дакладна — 2.6) клм.

А як тут прадстаўляецца сетка чыгунак? Вот-жа, калі на 100 кв. клм. у цэлай Польшчы ёсьць 5.2 клм. чыгунак, дык у Віленшчыне ёсьць іх толькі 3.7 клм., на Палесьсі — 2.9 (ня цэлыя тры) клм., а ў Наваградчыне толькі 2.8 клм.

І дзіця зразумее, што ня можа разьвівацца той край, куды так цяжка дастацца, куды няма дарог. Паводле гэтага выглядае й самае нашае гаспадарскае жыцьцё, перад усім у земляробстве. Якія-ж мы тут маем ураджаі ў параўнаньні хоць-бы з Польшчай, не гаворачы ўжо ад дальшай заграніцы. Вот-жа, калі ў цэлай Польшчы з гэктара ў сярэднім зьбіраюць: азімай пшаніцы 11.6 q, жыта — 11.5 q, ячменю — 12.2 q і аў-

---

## Ziamielnyja reformy ŭ Centralnaj Eŭropie

Padajom tut vypisku z pracy viedamaha daśledčyka ziamielnych spraŭ D-ra B. Dederko p. n. „Reformy Rolne a spółdzielczość w Europie Środkowej“, zamieščanaj u „Spółdz. Przeglądzie Naukowym“.

Red.

U hetym artykule pierahledzim paślavajennyja ziamielnyja reformy ŭ susiednich dziaržavach, jak Niamieččyna, Čechasłavaččyna, Łatvija i Litva.

### Niamieččyna

Pieršym zakonam u Niamieččynie ŭ spravie ziamielnaj reformy było rasparadžeńnie z dn. 21.I.1919 h., jakoje było dapoŭniena ŭ 1924 h. Pavodle hetaha ramovaha zakonu kolonizacyju mieli viešči asadnickija pradpryjemstvy, jakija atrymoŭvali ziemli kazionnyja i roznyja niaŭžytki, a tak-ža mieli pryznanaje prava pieršynstva da vykuplivańnia ziamiel inšych. Na prymusovy vykup dastali jany prava tolki tady, kali majemaść panad 100 ha zajmała bolš jak 10 prac. usich užytkaŭ. Ahułam da 1933 h. parcelacyja ŭ Niamieččynie jšła pamału: u 1933 h. haspadarki bolšyja jak 100 ha mieli ŭ svaim vaładańni jšče blizu 38 prac. ahulnaha abšaru kraju i 19 prac. ziamielnych užytkaŭ.

### Čechasłavaččyna

U Čechasłavaččynie, ad samaha pačatku isnavańnia hetaje respubliki, usia bujnaja ziamielnaja ŭłasnaść była abłožana aryštam i addadziena ŭ zaviedyvańnie Ziamielnaha Uradu. Za ziamlu hetak zabranuju dla Ziam. Uradu pryznavałasia apłata, z vyniatkam ziamiel, jakija naležali da varožych Čechasłavaččynie čužaziemcaŭ, da siamji dynastyi Habsburgaŭ, šlachockich fundacyjaŭ ci naahuł biazpraŭna nabytyja. Ad vialikich abšaraŭ, jakija pajšli pad parcelacyju, možna było pakinuć na ŭłasnaść papiarednim haspadarom („reštki“) najbolš 150 ha ziamli vornaj ci 250 da 500 ha — abšaru ahulnaha (lesu, paśbišča). Zakon pradbačyŭ

са — 11.6 q, дык у такой Віленшчыне з гэктара зьбіраюць: пшаніцы — 6.4 q, жыта — 7.8 q, ячменю — 7.1 q, аўса — 8.5 q; у Наваградчыне: пшаніцы — 8.2 q, жыта — 10.0 q, ячменю — 10.2, аўса — 11.5 q; на Палесьсі: пшаніцы — 9.0 q, жыта — 10.5 q, ячменю — 5.5 q, аўса — 10.5 q.

Ступень прамысловасьці нашага краю відаць так-жа з лічбы фізычных работнікаў занятых у промысьле. Агульная лічба такіх работнікаў з цэлай Польшчы ў 1934 г. была 600 тысяч чалавек. З гэтае лічбы на нашы землі прыпадала ўсяго ня больш 30 тыс. (5 прац.) чалавек.

Гэта жменя лічбаў ясна паказвае, як шмат нам яшчэ трэба, каб хоць крыху падцягнуць наша жыцьцё да меры агульна-прынятай за канешную. Ніхто нікому ня робіць гэтага за „харошыя вочы", дарма. Кожны мае свае хлапоты і аб іх перад усім стараецца. Ня зробіць ніхто работы і за нас. Найвышэй — абяцае, — на тое, каб у найхутчэйшым часе „забыцца". Прыкладаў на гэта поўна кругом, як у нядаўнай мінуўшчыне, так і ў найнавейшай сучаснасьці. А навука з усяго гэтага такая — не прапу-

# Сьнег і вада на азімых пасевах

Хоць вясна ўжо быццам і заглядае ў вочы, то аднак можа быць яшчэ ўсяго. А ў гэтым чаргаваньні цяпла днём і прымаразкаў ноччу й ёсьць згуба для расьлінаў. Мокры сьнег, а так-жа вада, абяртаючыся ў лёд, недапускаюць да расьліны паветра. Гэта-ж вядзе проста да таго, што такая расьліна пад зледавацеўшым сьнегам задыхаецца.

Можа здарыцца і так, што пад уплывам вясьнянага сонца сьнег у некаторых мясцох, дзе ляжаў тонкім пластам, ужо растаяў, а ў іншых мясцох, дзе ляжаў у гурбе, трываць будзе йшчэ цэлыя тыдні. Вясной, калі расьліны прабуджа

сьціць ніякае магчымасьці, якая вядзе да дабрабыту, а перад усім — здабываць родную асьвету і гуртавацца. У адзінку жыць, а тым больш плодна працаваць — ня можна. *Р. Р.*

mahčymaść rekvizycyi (za apłataj) razam z ziamloj tak-ža žyvoha j niažyvoha inventara.

Hetak pastaŭlenaja sprava parcelacyi dała značnyja rezultaty. Da 1936 h. praznačana było na parcelacyju 1.765 tys. ha (u hetym 862.410 ha aromaha hruntu), što aznačaje 12.6 prac. ahulnaj pavierchni kraju. Z hetaha 783.5 tys. ha było prydzielena 631.272 drobnym sialanam; 226.6 tys. ha z „reštkaŭ" z budynkami było prydzielena dla 2.281 haspadarak; urešcie 755.4 tys. ha lasoŭ było prydzielena dla 2.368 ułaśnikaŭ. Vidać z hetaha, što pry parcelacyjnaj akcyi čechi tvaryli silnyja „siarednija" haspadarki. Naahuł z abšaru parcelavanaha 44.4 pavierchni praznačana na ŭłaścivuju parcelacyju sialanskuju, 12.9 prac. na tvareńnie haspadarak siarednich.

## Łatvija

U Łatvii pieršaja i najvažniejšaja ŭstava (zakon) ab ziamielnaj reformie była vydadziena ŭ 1920 h. Pavodle hetaha zakonu zapas ziamli na parcelacyju mieŭ składacca z ziamiel kazionnych, karonnych (naležačych da asob carskaj dynastyi), šlachockich, i h. d. Abšary ziamielnyja zabiralisia tut nia tolki z budynkami, ale tak-ža (jak i ŭ Čechasłavaččynie) razam z inventarom, žyvym i miortvym. U 1924 h. byŭ vydany zakon ab apłacie za ziemli ŭziatyja na parcelacyju. Cana heta była ŭ kolki razoŭ mienšaja ad tahočasnaj cany na rynku Reforma ziamielnaja ŭ Łatvii była radykalnaj, moža navat bolš radykalnaj, jak u inšych krajoch pravodziačych u siabie parcelacyju. Za čas ad 1919 da 1935 hodu rasparcelavana było ahułam 1.703 tys. ha, ci jnakš 26 prac. usiaho abšaru kraju, razam z niaužytkami. Zapas hety padzieleny byŭ pamiž 200 tys. haspadaroŭ, h. zn. na adnu haspadarku vypała ŭ siarednim $8^1/_2$ ha. Jak vidać, haspadarki heta byli nievialikija, ale ŭsio-ž susim samavystarčalnyja.

U 1929 h. było ŭ Łatvii ŭžo tolki 1.021 haspadarak raźmieram vyšej 100 ha, jakija razam mieli 136 tys. ha ziamli. Vidać z hetaha, što parcelacyja ŭ Łatvii ŭžo kančajecca.

# У справе сеялкаў

Штодзенныя газэты і радыо падалі ўжо весткі аб тым, што польскае Міністэрства Земляробства ў сёлетнім бюджэце ўставіла пэўную суму грошаў, з якіх мае памагаць некаторым сялянам купляць сеялкі. Дапамога гэта мае йсьці двума торамі: той хто купляціме сеялку на варунках прадбачаных Міністэрствам, плаціць будзе толькі дзьве трацiны каталёгавай цаны сеялкі; за гэту цану ён атрымае сеялку на сваей найбліжэйшай станцыі, з аплачанай ужо перасылкай. Варункі такога льготнага купляньня сеялкаў яшчэ аканчальна не ўстаноўлены; пэўным толькі ёсьць, што кожны непасрэдна такой палёгкі не атрымае, яе можна дастаць толькі цераз фахова-земляробскія арганізацыі. Яшчэ больш пэўным ёсьць тое, што палёгкі (льготы) на купляньне сеялкі дастануць толькі гаспадаркі скомасаваныя (хутары) і то толькі тады, калі на адну сеялку выпадзе ня менш 100 га ворнага поля да абсеву. З гэтага апошняга ясна так-жа, што купляць сеялкі на льготных варунках могуць ня толькі адзінкі, але так-жа супалкі па некалькі гаспадароў разам, а так-жа асобныя фахова-земляробскія гурткі („кулкі").

Парадак фармальнасьцяў прадбачыцца гэтакі. Наўперад трэба атрымаць з паветавай фах.-земляробскай арганізацыі пасьведчаньне, што кандыдат адпавядае вышэйназваным варункам. Атрымоўвуючы такое пасьведчаньне, трэба падпісаць забавязаньне, што сеялка будзе выкарыстоўвацца ня толькі ва ўласнай гаспадарцы, але так жа за нявысокую цану і ў суседзяў. Пасьля гэтых фармальнасьцяў можна атрымаць двуконную сеялку краёвага вырабу, шырынёй да паўтара мэтра.

Дзеля аплаты абніжанай належнасьці за сеялку, калі хто ня можа гэтага зрабіць адразу гатоўкай, Міністэрства мае выдаваць пазычкі, якія апрацэнтоўвуюцца на 4 прац. і даюцца не даўжэй як на два з паловай гады.

Уся гэта льготная продаж сеялак мае пачацца зараз-жа і трываць роўна год. Адпаведнія чыньнікі выразна пры гэтым засьцерагаюцца, што на ніякія іншыя земляробскія машыны ніякіх льготаў чакаць ня можна.

Не ўваходзячы тут тымчасам у ацэнку, ці і на колькі сучасныя варункі даступныя для нашага беларускага сялянства, зазначыць тут трэба, што сеялка ёсьць машынай, якая ў скомасаванай гаспадарцы аплачвае самую сябе ўжо за тры-чатыры гады, а часам і раней: яна ашчаджае насеньне на 10—15 прац., а ўсеенае насеньне расьце незраўнана лепш і не марнуецца.

А. К.

---

юцца да новага жыцьця, пачынаюць дыхаць і чэрпаць сабе страву, найважнейшай справай ёсьць чым хутчэй пазбыцца гэтага сьнегу ў гурбах. Не заўсяды аднак можна палягаць на сонцы, бо асабліва пад грубой ледавой карой сьнег растапліваецца вельмі памалу, так што расьліны пад гэткім сьнегам часта не дачакаюцца вольнага паветра і гінуць. Каб гэтага ня сталася, ня можна дапусьціць, каб сьнегавыя гурбы зьліваліся на ледзяныя крыгі. Дзеля гэтага, як толькі заўважым, што скарупа (ледзяная крыга) можа паўстаць, г. зн. калі ў дзень прыгравае сонца, а ноччу марозіць, дык трэба неадкладна гэткі сьнег баранаваць цяжкімі вострымі жалезнымі баронамі. Калі ў пару выйсьці з гэтымі баронамі, дык звычайна даволі прайсьці з імі адзін раз; калі аднак лёд стаўся ўжо грубы, дык трэба па ім прайсьці йшчэ раз другі. Нярaз аднак здараецца, што ледзяныя крыгі стануцца так грубыя, што іх барана ня можа зусім раскрышыць. Тады няма іншай рады, як пакрышыць такую крыгу молатам, сякераю, кіркаю ці ломам і тады толькі пусьціць барану, якая разламаныя кускі лёду раздробіць. Усё гэта так простае і лёгкае да выкананьня, што дзіўным здаецца, чаму яго людзі не стасуюць; асабліва ў суровым клімаце земляў беларускіх, дзе трэба было-б рабіць усё магчымае, каб толькі прысьпяшыць вясной абсыханьне поля. А практыка як раз паказала, што баранаваны сьнег распускаецца раней на 10—14 дзён, а часам нават і яшчэ больш.

Пры канцы трэба ўспомніць, што пад сьнегам і вадой хутчэй задыхаюцца тыя расьліны, якія вясной раней прабуджаюцца да жыцьця, у нас раней напр. жыта чым пшаніца.

С. Я—віч.

# Бульба да саджэньня.

З прыходам вясны заўсяды актуальным становіцца пытаньне, якой мае быць бульба, каторую будзем садзіць: вялікая (буйная) ці малая (дробная), цэлая ці рэзаная. Што бульба гэткая павінна быць зусім здаровай, не заражанай, не пакалечанай, — аб гэтым хіба ня трэба і ўспамінаць, бо з хворага насеньня ня можна чакаць добрага і здаровага ўраджаю.

Шматлікія пробы (досьледы) бясспрэчна паказалі, што з вялікай насеннай бульбы бывае большы і ўраджай. Гэты прырост ураджайнасьці можна было-б выказаць лічбамі больш-менш гэтак: з пасаджаных на гэктары 20q (q=100 кілё) бульбы драбнейшай на восень зьбіраюць 120 q, ці йнакш, па адлічэньні сяўбовага, астаецца **чыстага ўраджаю 100** q. На абсаджаньне гэтага самага абшару бульбай большай трэба было-б сяўбы больш, скажам 30q, якія аднак увосені даюць ня 120q а 150q; па адлічэньні сяўбовага (30q) астанецца **чыстага ўраджаю 120**q, ці йнакш, на 20q больш, чым у выпадку папярэднім. А праца-ж пры гэтым, гнаеньне — былі тыя самыя. Знача, карысьць большага насеньня тут зусім выразная.

Натуральна, што гэта толькі прыклад. Усапраўднасьці ўраджай можа быць большым, як можа быць і меншым. Залежа гэта ў вялікай меры і ад гатунку самай бульбы і ад таго, як гэты гатунак падабраны да гатунку глебы.

У кожным асобным выпадку аднак усё трэба добра аблічыць, бо ведама-ж, што вясной бульба значна даражэйшая чымся ўвосені. Гэта трэба мець на ўвазе, бо вясьняны кошт лішкаў бульбы да саджэньня можа не пакрыцца спадзяванай надвышкай увосені. Блізу заўсяды аднак рахунак гэты добра аплаціцца, калі ўся бульба спатрабуецца ў сваей собскай гаспадарцы; на продаж рахаваць яе аплаціцца толькі тады, калі на бульбу ёсьць добры рынак (блізка гарадоў, бравароў і г. д.).

Пробы на дасьледчых станцыях акрамя таго паказалі йшчэ зьявішча іншае. Сьцьверджана было там, што з большых бульбінаў расьце бульба меншая, але больш яе знаходзіцца пад калівам; і наадварот, з меншых бульбінаў растуць бульбіны большыя, але самых бульбін пад калівам знаходзіцца менш. Залежна ад гэтага трэба прыгатаўляць сабе і сяўбовы матар'ял. Гаспадаркі пад большымі гарадамі, дзе мае збыт бульба вялікая, павінны садзіць бульбу драбнейшую. Агульны ўраджай, праўда, будзе меншы, але пакрыецца лепшай цаной за вялікую бульбу. Гаспадаркі ж, якія прадукуюць перад усім для сябе, павінны садзіць бульбу большую, бо тады будзе агульны ўраджай большы, а аб гэта тут і расходзіцца.

У кожным разе вельмі пажадана садзіць бульбу цэлую, лепш сярэднюю і нярэзаную, як вялікую, ці малую. Бульба-матка павінна мець у сабе даволі спажыўных матар'ялаў і вады для расьліны маладой. Натуральна, у бульбе малой ці рэзанай усяго гэтага будзе значна менш, чым у большай і цэлай. Акрамя таго на бульбіне рэзанай—і незавяўшай—лёгка асядаюць з зямлі розныя хваробныя бактэрыі, ад якіх пасьля псуецца цэлы ураджай.

Прычынай, якая змушае рэзаць сяўбовую бульбу, найчасьцей бывае „ашчаднасьць.“ Вось-жа, не гаворачы аб прычынах, якія да гэтае ашчаднасьці даводзяць і што з гэтага ў канцы канцоў выходзіць, зазначма тут, што калі-б здарылася патрэба рэзаньня сяўбовай бульбы, дык да саджэньня лепш падходзяць часьці бульбін з вяршка, чымся з пяткі, бо там лепш разьвітыя вочкі. А малыя бульбіны няпрыгодны да саджэньня йшчэ і з тае прычыны, што яны найчасьцей нясьпелыя, маюць недаразьвітыя вочкі, а што яшчэ горш, звычайна маюць у сабе зародкі розных хваробаў. З хваралівага-ж насеньня ня можна мець і здаровага ураджаю.

Гэтулькі найважнейшых заўваг аб бульбе прад выбіраньнем насеньня.

**З. К.**

---

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апотняй бачыне часапісу ўнізе.*

---

сем гадзін магло-б сапрэць. Па вымачэньню насеньне адразу стратыфікуем так, як сказана выжэй. Застратыфікаванае насеньне ставім у паўзімнае памяшчэньне на дзён дзесяць(10), потым выстаўляем скрынку на дзён шэсьць — восем (6—8) на мароз, каб пясок у скрыньцы прамерз наскрозь. Калі мароз большы як дзесяць-пятнаццаць (10—15) градусаў, дык скрынку трэба замарожываць у ганку ці закапаўшы глыбака у пухкі (рыхлы) сьнег. Потым скрынка ўносіцца ў паўцёплае памяшчэньне, каб пясок размерзся і пасьля ставіцца ў такім паўзімным памяшчэньні, гдзе-б нанова пясок не замерз Праз дзён якіх дваццаць (20) пясок трэба йшчэ прамарозіць такім-жа спосабам, як і першы раз і пасьля йзноў унясьці ў тое-ж самае памяшчэньне. Прамарожваньне робіцца да трох разоў. Прамарожанае насеньне дружна і да аднаго ўсходзіць.

Вясной, як толькі стане цёпла, а зямля ў агародзе йшчэ не адтаяла, сеяць яшчэ ня можна, дык каб без пары насеньне ў скрынцы не паўсходзіла, трэба зьверху лажыць лёд ці сьнег, які часам доўга ляжыць у цяністых мясцох.

Зімой, калі пясок бывае у скрынцы высахне, яго трэба паліць вадой.

Як толькі зямля адтае і прасохне, так што можна ўжо на ей працаваць, калі ня ліпне ўжо да ног і лапат з граблямі, дык адразу прыступаем да пасеву застратыфікаванага насеньня такім-жа парадкам, як увосені Перамешанае з пяском насеньне перад пасевам трэба перамыць у вадзе праз рэшата.

### *Пікаваньне.*

Як толькі яблыні ці йгрушы узыйдуць, трэба глядзець, каб не прапусьціць час пікаваньня (перасадкі севак). Без пікаваньня наша лясная яблыня і асабліва йгруша дадуць дзічок з адным доўгім углыб зямлі, як бурак, каранём, што ня ёсьць пажаданым для пладовых дрэўцаў: карэнь мусіць добра разгалузіцца ва ўсе бакі ды мець шмат дробных валасковых карэньчыкаў.



муцца, дык слаба зрастаюцца і пасьля лёгка абламываюцца на месцы шчапленьня. Перад размнажэньнем *malus prunifolii* трэба праверыць, якая ёсьць яна на шчапленьне Калі ня прыймаецца на ей добра шчапленьне, дык ніколі ня трэба сеяць яе на дзічкі.

На дзічкі для гадоўлі йгруш найлепш браць насеньне з нашай палявой лясной ігрушы *malus communis,* ад дрэў, якія маюць крупнае, чыстае лісьцё, часта і добра родзяць крупныя, добрага колеру, чыстыя ад плям, непатрэсканыя плады. Плады на насеньне трэба зьбіраць толькі зусім сьпелыя. З зялёных пладоў насеньне бывае няўсходнае. Калі маем намер мала гадаваць дзічак і насеньня нам трэба ня шмат, дык найлепш выбраць яго, разрэзываючы плады. Калі-ж насеньня нам трэба шмат, або захочам мець яго на продаж, дык найлепш часьць пладоў трохі зьбіць і злажыць іх разам са здаровымі ў доўгія, ня тоўстыя кучы, каб плады пачалі гніць, чарнець, але ні ў якім выпадку ня даць ім сагрэцца, бо насеньне тады сапрэе і будзе няўсходнае.

Як толькі плады падгніюць, тады таўчом іх у якой-небудзь скрынцы. Стоўчаныя плады перамываем у пасудзіне вадой. Мязга ўсплывае на верх, а насеньне йдзе на дно. Вымытае насеньне тонкім слоем раскладаем на паперы ці пасьцілках дзеля прасушкі. Каб скарэй яно прасохла, час ад часу перамешываем яго рукамі. Высушанае насеньне ссыпаем у палатняныя мяшэчкі і трымаем у правеўным, але і пэўным месцы, бо ў няпэўным усё насеньне часам зьядаюць мышы.

Дзічкі для шчапленьня сьліў найлепш гадаваць з насеньня Алычы ці так званай каўказскай сьлівы.

Для вішні нашага району гадуем дзічкі ці з насён мясцовай вішні ці з насён Антыпкі (prunus Mahaleb). Усё костачкавае насеньне трэба сеяць не пазьней як праз дванаццаць (12) дзён пасьля сарваньня з дрэва пладоў, бо ў пазьнейшым севе яны ўзыйдуць толькі на другую вясну, значыцца праз паўтара года. Стратыфікованае

(перахоўванае ў пяску) костачкавае насеньне ўсходзіць на другую, а часам і трэцюю вясну і далёка ня ўсё.

У палове кастрычніка сеем насеньне. Пад пасеў іх выбіраем месца роўнае, з малым склонам, гдзе не застайваецца вада... Мясцоў з вялікім склонам ня можна браць, бо падчас вялікіх дажджоў і пры веснавым растопе сьнегу, вада размывае загонікі і змывае насеньне.

Зямля пад пасеў павінна быць пухкая, ня гліністая, а найлепш супясчаная, Цяжкая гліністая зямля скора й моцна зьліпаецца, на версе робіцца цьвёрдая кара і вясной расткі з насеньня ня могуць прабіцца на верх. Перад пасевам зямлю трэба добра ачысьціць ад пустазельля. Для пасеву робім ня высокія, ад васьмі да дзесяці (8—10) сантымэтраў загонікі, шырынёй кажды ў сто двацаць (120) сантымэтраў; праходы паміж кожнага загоніка павінны быць трыццаць— сорак (30—40) сантымэтраў шырынёй. Высокіх і вузкіх загонаў пад пасеў яблынь ніхто ня робіць дзеля таго, што такія грады вясьняны вецер скора высушывае і зярняты дрэнна ўсходзяць. Усе загоны робім пад шнур, каб ўсё мела форму правідловую. Уздоўж загонаў вострым кіем робім раўкі, адзін ад другога па двацаць (20) сантымэтраў, глыбінёй да пяці (5) сантымэтраў, на цяжкой зямлі да чатырох (4) сантымэтраў. У раўкі густа адно каля другога сеем насеньне і прыкрываем зямлёй, якую згортываем у раўкі маленькай дошчачкай, але не канцом яе, а бокам. Калі насеньне сеем на зямлі цяжкай, зьліўнай, дык там гэтай зямлёй ня можна прыкрываць насеньня, а трэба засыпаць пяском, бо йнакш вясной расткі ня выб'юцца із-пад зямлі. Бываюць такія зімы, што зямля не прамерзьне, адразу выпадае сьнег. У такія зімы мышы часта выберуць чуць ня ўсе зярняты з зямлі. Каб пасеенага насеньня ня зьелі мышы, перад пасевам трэба добра перамешываць насеньне з парашком мініі, які бярэцца з такім рашчотам, каб мініі выпадала ня менш двацаці (20) грамаў на адзін (1) кілёграм насеньня. Мінію можна купіць у аптэцы ці ў аптэчным складзе.



## *Стратыфікаваньне.*

Калі-ж не пасьпеем пасеяць насеньня ўвосень з якой-небудзь прычыны (дзеля познага выбраньня насеньня з пладоў, або непрыгатаваньня месца для пасеву), дык насеньне стратыфікуем, гэта значыць перамешваем яго з пяском. Стратыфікаваньне робіцца так. Бяром драўляную скрынку, з ня зусім шчыльным у ёй дном, каб вада не задзержывалася, і сыплем на дно чыстага рэчнага пяску сантымэтраў на чатыры-пяць (4—5) таўшчынёй. Пасьля бяром насеньне і разоў пяць-шэсьць на меру больш пяску, чым насеньня, ссыпаем усё разам, пясок і насеньне, у якую пасудзіну і добра перамешваем якой палачкай. Па дакладнай перамешцы насеньне з пяском высыпаем у вышэйсказаную скрынку, добра паліваем вадой, каб пясок на скрозь прамок, зраўноўваем гладка выбоіны, зробленыя вадой і насыпаем на верх на пару сантымэтраў чыстага пяску, а на пясок накладаем густа дробных яловых ці ялаўцовых лапак, зьверху скрынку забіваем ня зусім шчыльна дошкай. Кажу — ня зусім шчыльна дзеля таго, што калі шчыльна заб'ём, дык паветра ня будзе даходзіць да застрафікаванага насеньня, а гэта дрэнна адаб'ецца на ўсходнасьці насеньня. Пасьля скрынку ўстаўляем на дворы, не на нізкім месцы, у яму, так, каб верх скрынкі ад верху зямлі быў ня глыбей як сантымэтраў на трыццаць (30), абкладаем увакруг скрынку зьнізу, зьверху і з бакоў яловымі лапкамі і закапваем так, каб зьверху быў копчык; па баках трэба зрабіць равок, каб вада не дасталася ў ямку. Лапкі кладзём ад мышэй.

Бываюць выпадкі, што насеньне мы здабудзем з вялікім апазьненьнем, зімой, напрыклад у палавіне месяца студня. Тады перад стратыфікаваньнем яблыні насеньне яблыні ці йгрушы замачываем у летняй вадзе на сорак восем (48) гадзін. Пасудзіну з замочаным насеньнем стаўляем у хаце, каля сьцяны, але ні ў якім выпадку каля цёплай печы, гдзе насеньне за сорак во-

караня робіцца дзеля таго, каб у вырасшага з гэтай сеўкі дрэўца было больш бакавога карэньня. Пікаваньне трэба выконываць надта ўважна. Трэба глядзець, каб устаўляючы карэньчык сеўкі ў зямлю не загнуць яго, бо дрэўцы з такіх севак вырастуць з крывымі карэньнямі і пойдуць у брак.

Па распікаваньні, праз усё лета, пасьля кожнага большага дажджу, трэба старацца ўзрыхляць зямлю і не дапускаць да зарастаньня травой. Калі здарыцца вялікі дождж і моцна залепіць ад нізу аж да верху маладыя сеўкі, дык адразу, як толькі сеўка крыху абсохне, трэба зямлю асьцярожна пальцамі пастрасаць.

Калі хто хоча, каб сеўкі за адно лета дарасьлі да мэтра ў вышыню, дык мусіць не ляніцца як найчасьцей узрыхляць зямлю і нішчыць увакруг траву. Працуючы як кіраўнік гандлёвага пітомніку (школкі), і ў сябе дома, я ніколі больш аднаго разу пры пасадцы не паліваў і не палліваю, якое-б лета ні было сухое, а толькі што тыдзень успульхняю зямлю, і дзічкі восеньню маю заўсёды вельмі добрыя. Частае ўспульхняньне зямлі лічу лепшым ад паліваньня.

Гаворачы аб севе і пікаваньню яблыні мушу зазначыць, што дзічкі з насеньня malus prunifolia пікаваць ня трэба: яны і без пікаваньня маюць надта добрую сыстэму карнёвую. Таксама ня трэба пікаваць вішняў і сьліваў.

На маладыя сеўкі ці старэйшыя дрэўцы летам заўсяды нападае травяністая тля (папольску— mszyca zielona), ад чаго лісьцё пачынае скручывацца, дрэўца крывее і перастае расьці. Каб ня даць размножыцца гэтаму шкодніку і ня мець пакалечаных і малых у росьце дзічкоў, трэба часта пераглядаць дрэўцы. Як толькі заўважым травяністую тлю, трэба зрабіць раствор з трыста (300) грамаў сьпірту-дэнатурату і дзевяцёх з палавінай ($9^{1}/_{2}$) літраў летняй вады, дадаць семдзесят пяць (75) грамаў зялёнага (шэрага) мыла, усё дакладна перамяшаць, пакуль мыла не распусьціцца, наліць раствору ў няглыбокую міску ці талерку, падхадзіць



# Правільнае гадаваньне дзічкоў.

Кожны з нас, закладаючы сад, хоча, каб ён быў як найлепшым, гэта значыць, каб пасаджаныя дрэвы добра расьлі, ня гінулі ад марозу, радзілі што год многа прыгожых і смачных пладоў. Гэтыя нашыя пажаданьні збудуцца толькі тады, калі мы пасадзім дрэўцы, зашчэпленыя на падвоях (дзічках), адпаведніх для нашага клімату і варункаў зямельных, калі зашчэпленыя сарты пладовых дрэў таксама будуць дабраны да тых-жа варункаў кліматычных і зямельных, калі будзем свой сад добра даглядаць і бараніць яго ад розных шкоднікаў.

## *Разгледзім справу падвоеў.*

Падвоі (дзічкі) для пладовых дрэў, як кожнаму з нас ведама, гадуем з насеньня і ад якасьці пасеенага насеньня будзе ўсецэла залежаць і якасьць самых падвоеў, а ад якасьці падвоеў будзе залежаць у надта вялікай ступені адпорнасьць і якасьць нашых садоў. Падвоі ў садоўніцтве маюць надта вялікае значэньне: ад іх залежа адпорнасьць на маразы й іншыя няўзгоды, а так-жа ўраджайнасьць.

Ня з кожнага дрэва можна браць насеньне. З выбарам насеньня трэба быць вельмі і вельмі асьцярожным. Пачнём ад яблыні. Найлепшымі насеньнікамі для нашых яблынных садоў будзе наша мясцовая лясная яблыня *malus silvestris* і кітайская сьліваліставя яблыня *malus prunifolia*.

Наша мясцовая лясная яблыня адпорная на вялікія нашыя маразы, не пераборлівая на зямлю, добра

зрастаецца пры шчапленьні з усімі сартамі садовых сартоў яблыні. Прышчэпы на лясной яблыні дасягаюць магутнага ўзросту, бываюць даўгавечныя і ўраджайныя. Плады на насеньне лясной яблыні мы ня можам браць з усякай спатканай лясной яблыні, трэба выбіраць. Ніколі ня можам браць на насеньне пладоў з тых лясных яблынь, якія растуць у самым садку паміж шчэпленых яблынь, ці зусім блізка ад саду, гдзе часам бываюць далікатныя сарты яблыні; дзічкі пры ўзаемным апыленьню з такімі садовымі яблынямі выдаюць насеньне не пажаданае ў садоўніцтве, бо з гэтага насеньня могуць вырасьці мешанцы, зусім не адпорныя на мароз і хваробы.

На насеньне трэба зьбіраць плады толькі з тых лясных яблынь, якія растуць далёка на полі, ці ў лесе і толькі з тых дрэў, якія адзначаюцца вялікім ростам, маюць здаровыя гладкія пні, а лісьцё маюць вялікае, пушыстае; родзяць часта і многа крупных, чыстых ад плям і рана пасьпяваючых пладоў. Ні ў якім выпадку ня можна зьбіраць насеньне з лясной яблыні, якая мае лісьцё дробнае, бліскучае, плады родзіць дробныя, паплямленыя, патрэскаўшыся. Калі мы зашчэпім яблыні на дзічках з такога насеньня, дык дрэўцы нашы будуць дрэнна расьці, а йшчэ горш пладаносіць (радзіць).

Але і насеньне лясных яблынь ці йгруш трэба браць толькі з свайго раёну; з цяплейшых аколіц ніколі ня можна браць, але з зімнейшых — так!

Калі лясная яблыня без дагляду пражыла многа год, стала вялікім, здаровым, магутным дрэвам, ня зьмерзла, дык тым больш і патомства ад яе пры добрым даглядзе будзе йшчэ здаравейшым і адпорнейшым.

*Malus prunifolia* ёсьць падвоем (дзічкай) вельмі добрым, адпорным на мароз, непераборлівым на зямлю, ня надта баіцца сырых мясцоў, але бяда ў тым, што спаткаць яго ў нас можна надта рэдка і апроч таго, паміж malus prunifolii пападаюцца такія пад-адмены (мешанцы), на якіх ня ўсе сарты яблынь шчапленьнем вочкамі ці сучком добра прыймаюцца, а калі і прый-



Пад пікаваньне выбіраем зямлю самую найлепшую, бо на дрэннай зямлі ніколі ня вырастуць дзічкі добрыя. Зямля мусіць быць з восені ачышчана ад сорных траваў.

Час пікаваньня самы найлепшы тады, калі сеўка толькі пачне выпускаць трэці лісток. Першых двух ліcткоў ад зямлі (семядолі) ня трэба лічыць.

Да часу пікаваньня робяцца на ураджайнейшай зямлі такія-ж як і для пасеву градкі, вызначаюцца роўныя радкі (не раўкі) на дваццаць (20) сантымэтраў адзін ад другога ўпоперак градкі і садзяцца сеўкі пад мерку, сеўка ад сеўкі ў радку на дванаццаць да семнаццацёх (12 – 17) сантымэтраў, залежна ад зямлі. Калі зямля добрая – садзім гусьцей, а калі дрэнная — садзім радзей.

Само пікаваньне робіцца гэтак: бярэцца якая-небудзь пасудзіна: міса, скрыначка лёгкая ці кошык. На дно і па бакох пасудзіны кладзём сьвежы мокры мох і йдзём капаць сеўкі, якія адразу кладзём у пасудзіну з мохам. Капаем за раз штук 200 300. Зверху сеўкі прыкрываюцца сырым мохам—бо йнакш іх высушыць сонца і вецер, і йдзём садзіць. Бяром у рукі маленькую, з цьвёрдага дрэва (дубу, клёну ці ясеню), лапатачку, 25 сантымэтраў даўжыні і 2 з палавінай сантымэтры шырыні і на патрэбнай адлегласьці ўтыкаем, як далато, проста ў зямлю, на глыбіню 8—10 сантымэтраў, паварачываем у адзін і другі бок ўздоў-ж радка і выцягваем вон. Тады бяром адну з ужо выкапаных севак, абрываем (лепш адрэзваем) адну трэцюю часьць ейнага караня і, не загібаючы рэшты караня, ўстаўляем у зробленую лапаткай ямачку на такую глыбіню, як дагэтуль сеўка расла у зямлі. Лапатку бяром ізноў у рукі, устаўляем побач у зямлю, прыціскаючы яе (зямлю) да расьлінкі з аднаго і другога боку ў тым-жа кірунку, у якім прад гэтым расхілялася. Увакруг сеўкі робіцца маленькая, як місачка, ямачка і адразу паліваецца вадой.

Абрыўка (укарачваньне) на адну трэцюю часьць

# Мак з морхвай

Мак гэта „лётэрыя“, гэта знача, што цана ягоная ў розных гадох бывае розная. Раз можна атрымаць за яго цану даволі высокую, а іншым разам ападае зусім нізка. Дзеля гэтага гадаваньне маку гэта рызыка. Каб гэту рызыку зьменшыць, заграніцаю гадуюць мак разам з кармовай морхвай. Расьліны гэтыя добра да сябе ўзаемна стасуюцца. Мак па засеве ўсходзіць скора, морхва — памалу, мак сходзіць з поля рана, зусім не перашкаджаючы морхве, якая пачынае разрастацца галоўным чынам з пачаткам восені і зьбіраецца з поля позна ўвосені. Мак на пачатку вырастае высака, будучы гэтым самым абароннай расьлінай для нізка растучай морхвы. А што найважнейшае, гэта тое, што ўраджай абедзьвюх разам растучых расьлін ёсьць блізу такі самы, як калі-б кожная з іх была засеена паасобку. Гэта знача, што сумыснае гадаваньне маку з морхвай пазваляе з аднаго поля атрымоўваць два ўраджаі. Гэта так-жа касуе ўсякае рызыка пры гадаваньні маку, бо ён не вымагае ніякага асобнага ад морхвы дагляду.

У сяпянскіх гаспадарках, дзе морхва садзіцца ў разоры (рэдліны) пры помачы малых ручных матычак, асадкай гэтых матычак (удоўжкі 15—20 см.,) найлепш мерыць і азначаць мясцы, у якіх пасьля будуць расьці асобныя расьлінкі морхвы. Мак можа расьці ў такіх самых адлегласьцях, дзеля таго і ён высейваецца або разам з морхвай або асобна. Да добра абцёртага насеньня морхвы дадаецца насеньне маку, лічачы на гэктар каля 3 клг (на 100 кв. м. 30 грам.) і высейваецца разам у ямку загадзя прыгатаваную матыкай. Высыпаўшы насеньне ў ямку трэба яго прысыпаць і прыцісьнуць пяткай матыкі. Калі-ж хацець сеяць мак асобна, дык ён усейваецца ў асобныя ямкі, разьмешчаныя паміж ямкамі з засеенай морхвай.

Па засеве найважнейшай рэчай ёсьць дагляд. Як морхва, так і мак ня церпяць пустазельля. Калі поле было прыгатавана пад засеў простымі разорамі, дык губіць траву і ўсякае зельле даволі лёгка пры помачы адумысловых матычак, і то яшчэ нават тады, калі мак і ня ўзыйшоў. Пасьля таго, як мак і морхва абыйдуць, палоць зельле ўжо цяжэй, бо можна пашкодзіць самыя кволыя расьлінкі, якія акрамя таго вельмі хутка могуць быць заглушаны зельлем. Калі мак мае ўжо 3—4 лісткі, трэба яго прарываць, пакідаючы толькі адну расьлінку, найсільнейшую. Адначасна можна так-жа прарываць і моркву. Калі мак падрасьце йшчэ больш, калівы ягоныя абсыпаюць зямлёй.

Дасьпелую макаўку зрэзваюць нажом, калі мак быў засеены разам (у адну ямку) з морхвай; калі-ж мак усейваўся ў ямкі асобныя, дык вырываецца разам з карэньнем, вяжыцца ў пучкі і сушыцца. Сабраўшы мак, морхву можна пагнаіць азотным штучным гноем.

Хочучы мець добрае насеньне маку, трэба харошыя і моцныя калівы зьбіраць асобна і асобна трымаць немалочаны, баронячы ад мышэй аж да наступнага году.

Ураджай маку гадаванага разам з морхвай у Нямеччыне дасягае 6 да 12 q з аднаго гэктара*). Салома маку надаецца толькі на спаленьне...

Гадуючы мак разам з морхвай і хочучы атрымаць як можна большы ураджай абеіх расьлін,—а гэтак яны толькі аплачываецца — трэба гэтым расьлінам запэўніць даволі кармовых складнікаў у глебе. Гнаіць пад морхву з макам можна хляўным гноем. Трэба толькі памятаць, што па гэткім гнаеньні будзе шмат пустазельля і што сама морхва будзе часта вілаватая. Дадатак азоту (па версе) будзе вельмі карысным. На добрай глебе можна сеяць морхву з макам так-жа на другую гнойную сілу (на зямлі гноенай год наперад), пасьля акопнінаў. Глеба будзе ў такім выпадку чыстай, але добра, калі яе ў такім выпадку падмацаваць яшчэ гнаямі штучнымі, залежна ад якасьці самой глебы, даючы 100—200 клг. паташавай солі і супэртомасыны і гэтулькі-ж гнаёў азотных. З гэтых апошніх палову, калі толькі гэта магчыма, у форме салетры.

Паз.



*) За 1 q маку сёлета плацяць больш ста злотаў.

## Што дае коопэрацыя

### Гадавы сход сяброў Спажывецкага Каапэратыва „Рунь"

Дня 30 студня 1938 г. адбыўся звычайны гадавы сход Спажывецкага Каапэратыву „Рунь" у Рачканах, Ляхавіцкае гміны, Баранавіцкага павету.

На сходзе было прысутных звыш 60 сяброў каап. і болей дзесятка гасьцей. Справаздачу складалі: ад Нагляднае Рады грам. В. Яцкевіч, ад Управы — грам. Я. Патаповіч. З справаздачаў гэтых сябры каапэратыва між іншым даведаліся, што абарот за 1937 год быў 44.065 зл. 91 гр., а чыстая надвышка выносіць 1.224 зл. 44 гр. Даход гэты (надвышка) падзелены згодна з статутам і пастановай сходу. Дывідэнды пайшчыкам зьвернена па 2 прац. ад закупу. Некаторыя сябры атрымалі звыш 20 зл. звароту.

На папярэднім гадавым сходзе 31 студня 1937 г. з часткі чыстае надвышкі за 1936 год утвораны „Дапамаговы Фонд". Лёяльным пайшчыкам каапэратыва выдаецца беспрацантовая зваротная пазыка ў разе нешчасьлівых выпадкаў у сяброў, як прапажа скаціны, хвароба і г. д. Акрамя таго каапэратыў купіў так званы млынок да ачысткі насеньня збожа (гарфа). У кастрычніку 1937 г. куплены машыны да трэньня і трапаньня лёну, якія прычыніліся да значнага зьмяншэньня выдаткаў на пераробку лёну і ў вялікай ступені палепшылі ягоную якасьць. Каапэратыў у сваім бюджэце не забывае так-жа ўстаўляць пэўныя сумы на выдаткі культурна-асьветныя.

Наагул наш каапэратыў разьвіваецца вельмі добра дзякуючы няўтомнай працы першага ініцыятара і закладчыка грам. Янкі Патаповіча. Трэба зазначыць, што ня толькі нашая вёска, але і ўся наша гміна паступова каапэратызуецца. Рух каапэратыўны ў нас датуецца ад 1912 году, але толькі ў 1927-8 г. ўвайшоў ён на нармальныя торы. Цяпер маем на абшары гміны 12 каапэратываў з 14 крамамі. Некаторыя з іх зусім слабыя з прычыны недахопу інтэлігентных і фаховых сілаў, а перад усім сілаў сваіх беларускіх, выйшаўшых з роднага асяродзішча.

*В. Я—ч.*



## Парасяты на плем.

Вучыцца гадаваць парасяты? Гмм... Каб большай бяды ня знаць!.. Гэтак не адна гаспадыня падумае, прачытаўшы загаловак гэтага артыкулу. Паводле гэтага выглядае й ейная гаспадарка наагул, а жывёлагадоўля — асабліва. Бо калі праўда, што жывёлагадоўля ёсьць успамогай у гаспадарцы, дык праўда й тое, што аплачваецца толькі такая жывёлагадоўля, якая кіруецца найнавейшымі здабычамі навукі і практыкі.

Гэтулькі аб жывёлагадоўлі агулам. Пераходзячы да справы сьвінагадоўлі, пачнём проста ад таго, што ўдача тут залежа ад: 1. адпаведнага дагляду паросная сьвіні, 2. самага парашэньня, 3. выбару парасяці на племя і 4. належнага яго гадаваньня.

Састарэўся ўжо пагляд, што паросная сьвіня мусіць блізу што нярухома сядзець запёртая ў хляве: калі толькі пагода пазваляе, мусіць яна штодзень пабываць на вольным паветры. Затое ўсе рухі яе павінны быць павольныя, ня можна яе нідзе ўдарыць, а тымбольш па хрыбце. Пароснасьць сьвіні трывае ў сярэднім 116 дзён, ці йнакш—3 месяцы, 3 тыдні і 3 дні (114 дзён).

Звычайна ў нас так вядзецца, што рэдка хто бача, калі сьвіня паросіцца, і трэба сказаць, што найчасьцей нікому з гэтага ніякая крыўда ня дзеецца. Чаму? Бо скрозь гадаваная ў нас краёвая (тутэйшая) сьвіня такога дагляду і не патрабуе. Інакш з сьвінямі (і наагул жывёлай) заводнімі ці расавымі: яны такога дагляду патрабуюць. І тое, што сям-там заведзеная ў нас гадоўля нейкага іоркшыра ці бэркшыра, або сьвіней нямецкіх сваіх надзеяў не апраўдала, у першую чаргу прыпісаць трэба таму, што сьвіні гэтыя карміліся тут за слаба, а даглядаліся так, як сьвіні мясцовыя, г. зн. — ніяк. Вот-жа, хто гэткіх сьвіней мае, мусіць з ім прад апарашэньнем іх задаць сабе крыху труду, які пасьля аплаціцца.

Наўперад прыгатаваньне самай сьвіні да апарашэньня: патрабуе яна на гэта спакойны хлявок, а прынамся асобную загарадку, суха падасланую каротка парэзанай саломай, каб у ёй не закапалася і пасьля не заціснулася нованароджанае парасё. У меру як родзяцца

парасяты, адно па другім адносяцца яны ад маткі ў загадзя прыгатаваную карзінку ці кошык, высьцеляны мяккім сенам і прыкрываюцца чыстай зрэбнінай (мяхом). Новародкам адрэзваецца ці йшчэ лепш — адстрыгаецца пупавіна на якіх 10 см. (шырка далані) і зацiскаецца чыстымі пальцамі або падвязваецца такой-жа палатнянай падвязкай. Усьлед за апошнім парасём, якое звычайна выходзе даволі позна, пачынае выходзіць і радзільнае лагво, якое трэба чыста падабраць і вынесьці, а ўсю падсьцілку таксама зьмяніць; бо йнакш сьвіня можа яго „падабраць“ сама, а пасьля, рассмакаваўшыся, пусьціцца і да самых парасят.

Зараз-жа па выхадзе лагва трэба сьвіню падмацаваць добрай цёплай пажыўнай пойлай, прыгатаванай з вады і — найлепш — пшанічных атрубоў, як густая зацірка. Гэткай малакагоннай пойлай корміцца сьвіня праз тры дні, па пяць разоў у дзень: гоіцца пры гэтым хутка нутро сьвіні і выдзяляецца шмат малака.

Калі ўсё гэта зроблена, сьвіня накормлена, трэба падумаць аб кармленьні новародкаў. Прад тым аднак трэба ім зрабіць яшчэ адну опэрацыю: адумысловымі шчыпцамі (вострымі быццам нажніцы) паабстрыгаць вярхі клыкоў. Калі гэтага не зрабіць, дык парасяты звычайна грызуць матчына вым'я, а матка — ня раз — адплачваецца гэтым самым, асабліва матка-пяршачка*). Усю гэту „опэрацыю“ аднак трэба рабіць нейдзе на старане, каб сьвіня-матка ня чула квіканьня сваіх дзяцей.

Як усё гатова, сьвіню кладуць выгодна на зьмененай падсьцілцы, гладзяць яе ўсю, асабліва вым'я (падбруша) і падсыпаюць ёй парасят. Некаторыя радзяць пры гэтым слабейшых (меншых) парасят падсыпаць у сярэдзіну, а большых — пры канцох вым'я. Мае гэта быццам выраўняць парасят: у сярэдзіне вым'я больш малака і парасё падсаджанае ў гэта месца мае хутчэй расьці, „дагнаць“ тых, што нарадзіліся большымі. Іншыя кажуць аднак, што сільнейшае парасё ўсё-роўна адапхне слабейшага і само знойдзецца там, дзе яно захоча. Адно пры гэтым пэўнае — ня можа быць больш парасят, чым колькі сьвіня мае грудных струкоў (сісёк). Цяпер ужо час прыглядацца, якое парасё пакінуць сабе на плем. Незалежна ад шэрсьці (ёркшыры — белыя, бэркшыры — чорныя) сьвінкі павінны быць доўгія, на карацейшых, затое грубшых ножках, з шырокім задам і кароткім шнюком (лычом).

Спорным ёсьць спосаб адстаўляньня парасяці ад маткі. Важныя тут два пытаньні: як доўга трымаць парасё пры матцы і чым яго карміць пры адстаўляньні. А тут узноў адна справа з сьвінямі краёвымі (мясцовымі), і другая справа — з сьвінямі заводнымі. Падчас калі парасяты краёвых сьвіней можна адстаўляць ад маткі ўжо па двух тыднях, дык парасят сьвіней заводніх раней 6-цёх і нават 8 мёх тыдняў ніколі адстаўляць ня можна. Найцяжэй аднак няраз вырашыць справу, чым парасё карміць. Першая пры гэтым рэч — сказаць сабе выразна, што з гэтых парасят хочам мець: матарыял кормны ці племны? Кожны з гэтых гатункаў мае іншыя вымаганьні і таму йнакшага патрабуе корму. Парасяты празначаныя на корм (на парасяціну) трэба адразу так карміць, каб прыймалі найбольш корму перарабляючы яго на мяса і сала. Інакш з парасятамі племнымі, у якіх патрэбна здароўе і здольнасьць прыйманьня ўсякае вырабленае ў гаспадарцы пашы. Ясна дзеля таго, што хоць парасяты найлягчэй было-б прывучаць да малака, поўнага ці поснага, то аднак, не гаворачы аб дарагавізьне гэтага малака, можна на гэта пазволіць у парасят кормных і не аплаціцца — у племных. Проста кажучы, усе лепшыя гадаўцы племных парасят не даюць ім ні каплі малака ад самага пачатку. Замест гэтага служа размочаны і прарошчаны ячмень і груба змолаты авёс. Гэты дадатак даецца парасятам яшчэ тады, калі яны жывуць самым матчыным малаком. Ужо ў першых днях расьцярушваюцца ў падсьцілку вышэйуспомненыя зярняты ячменю. Спачатку вышуквае іх сьвіня сама, прывучваючы да гэтага і дзяцей. Як толькі парасяты прывучацца выбіраць гэтыя зярняты, даецца ім ужо зьмешаная з вадой на кашу мешанка ячменнай і аўсянай мукі (на вагу роўныя часьці мешанкі і вады), па магчымасьці з дадаткам кармовай крэйды, каб добра разьвіваўся касьцяк. Улетку, калі толькі блізка ад хлява ёсьць маладая канюшына, дык ужо ад

*) Пры гэтым, калі парасё і астанецца жывым, дык яно ўсё роўна ня будзе хутка расьці, бо матка ня спусьціць яму малака.

## Крывавая мача

Крывавая мача гэта хвароба, на каторую западае скаціна, калі пасецца на лясных пасьбішчах, асабліва ў лясох лісьцястых. Справа ў тым, што на лістох лясных расьлін вельмі часта сядзяць кляшчы, якія прычэпліваюцца да скуры жывёлы, якая пасецца ў лесе. Кляшчы гэтыя жывуць крывёй жывёлы. А калі клешч гэткі заражаны бактэрыямі крывавай мачы, дык ён, пракалоўшы скуру, ўпускае ў кроў жывёлы зародкі хваробы, і яна тут далей разьвіваецца. Цікава, што на хваробу чырвонай мачы западае толькі скаціна, а іншая жывёла ад гэтае хваробы зусім бясьпечная.

Хвароба пашыраецца вясной і на самым пачатку лета. Дзеля таго што з прычыны нястачы пашы сёлета скаціна здаецца пойдзе на пасту раней як заўсяды і перад усім на пасьбішча лясное, дык і хвароба можа сёлета пашырыцца хутчэй, як у гады іншыя. Акрамя самага пасьбішча, небясьпечна для скаціны і лясная падсьцілка, у якой могуць быць так-жа зародкі хваробы.

Аб'явы хваробы гэткія: сільна падыймаецца гарачка, якая даходзе да 42°Ц. Скаціна становіцца сумнай і соннай, ня хоча есьці, церпіць на затрыманьне, мача становіцца чырвонай (стуль і назоў хваробы). Скаціна траціць сілы, стала ляжыць і за 5—10 дзён можа згінуць. У аколіцах, дзе скаціна пасецца стала на лясных пасьбішчах, хвароба звычайна праходзе лёгка і жывёла выздараўлівае. Калі аднак жывёлу з пасьбішчаў звычайных перавесьці на пасьбішчы лясныя, дык няраз хвароба праходзіць вельмі цяжка.

Як толькі хвароба распазнаецца, трэба зараз-жа увольніць жывёлу ад усіх седзячых на ёй кляшчоў, якія, як ужо сказана, жывуць крывёй і наагул сокамі жывёлы і хутка растучы дасягаюць вялічыні вялікай гарошыны. Зазначыць тут аднак трэба, што ня можна кляшча выбіраць пальцамі, бо гэтак ён толькі разарвецца на двое і галава ўсё роўна астанецца ў скуры. Лепш і пэўна можна змусіць кляшча, каб із скаціннай скуры вылез сам. Даволі дзеля гэтага капнуць на кляшча аднэй капляй тэрпатыны і клешч вылезе. Калі-ж у скуры ёсьць кляшчоў шмат, дык трэба вымазаць усю скуру тэрпатынай, або моцным растворам звычайнай кухоннай солі. Натуральна, кляшчоў трэба выбіраць ня толькі з скаціны хворай, але так-жа і з здаровай, забіраючы гэту апошнюю перад усім з лясных пасьбішчаў і пераводзячы яе на пасьбішчы звычайныя, адкрытыя, здаровыя. Яшчэ раз пры гэтым зазначма, што небясьпечны кляшчамі лясы лісьцястыя ці хоць-бы толькі лісьцястыя заросьлі.

Супроць крывавай мачы ёсьць розныя лекі, стасаваць якія аднак можа толькі лекар-вэтэрынар. Ёсьць гэта перад усім уколы пад скуру лякарства трыпанбляу (раствор 2 грамы лякарства на 200 гр. пераваранай вады). Дзеля падтрыманьня сэрца даецца жывёле водка. Акрамя таго ўліваецца пад скуру этэр або камфаровая аліва.

Хочачы забясьпечыць скаціну прад хваробай крывавай мачы, можна стасаваць абароннае прышчэпліваньне: каровам здаровым прышчэпліваецца кроў з жывёлы, якая гэту хваробу ўжо перажыла. Робіцца гэта за 6—8 тыдняў прад тым, як скаціна выганяецца на лясное пасьбішча.

З. К.

---

6 га тыдня могуць такія парасяты хадзіць з маткай на такое канюшыннае пасьбішча.

Аб тым, колькі павінна парасё дастаць таго ці іншага корму, можна агулам толькі сказаць, што такое парасё павінна быць сытым; г. зн. ня можна каб яно галадала, але ня можна й гэтулькі мяшаць корму, што парасё за раз ня здолее яго зьесьці. Аб'едкі, выкіненыя за карыта і зьяданыя пры наступным, а то і пры дальшых кармленьнях, гэта... атрута. Дык трэба гэтага высьцерагацца. Пойлай для добра гадаванага парасяці павінна быць чыстая вада. Гэтак гадаванае парасё, калі толькі яно здаровае, павінна ў дзень прыбіраць на вазе больш-менш 200 грам., г. зн. за дзень паўфунта, а за пяць дзён—1 кілёграм (=1000 грамаў).

Лішне дадаваць, што гэтак прывучванае парасё вельмі лёгка адлучаецца ад маткі і прывыкае да зусім незалежнага жыцьця. Парасё гэткае, праўда, можа ня будзе так „гладкае“, як парасё кормленае малаком; але яно будзе лепш прыгатаванае да жыцьця.

А. К.

# Бялкі як складовая часьць пашы

Гэтых колькі ўваг празначаны перад усім для тых гаспадарак, якія дастаўляюць малако ў малачарні. Але важныя яны і для ўсіх агулам.

Сярод усіх складнікаў, якія павінны знаходзіцца ў страве людзкой ці ў пашы жывёлы, зусім асобнае, можна сказаць перадавое месца займае бялок. Патрэбны ён жывёле як пры ўзросьце, так і тады, калі ад гэтае жывёлы вымагаецца ці то праца, ці малако, яйкі шэрсьць і г. д. Дзеля гэтага разумная гаспадарка бялком пры кармленьні жывёлы ёсьць справай вельмі важнай. Земляроб ня сьмее прапусьціць ніводнай аказіі, каб бялок гэты належна выкарыстаць, ашчаджаць, а галоўнае — не марнаваць. Бялок — агулам бяручы бывае расьлінны і мясны (жывёлы). Расьлінны бялок, як паказвае сам назоў, знаходзіцца ў зярняці збожа, у траве, канюшыне, атрубох, макухах, а бялок жывёлы у малацэ, у муцэ з мяса і г.д. Дзеля таго, што найтанейшы бялок знаходзіцца ў пашах собскай прадукцыі, дык на гэтыя пашы перад усім і трэба зьвярнуць увагу.

Як ужо гаварылася, бялок расьлінны знаходзіцца між іншым у траве, канюшыне, люцэрне і г. д. Але пашы гэтыя скармліваюцца ў сьвежым стане толькі ўлетку, а на зіму мусім іх сушыць на сена. Вымагае гэта мазольнай працы, а калі пагода не ўдаецца, дык паміма найбольшых стараньняў добрага сена ўсё роўна атрымаць ня ўдасца. Часта нават не памагаюць і добрыя ў кожным разе трыногі („казлы," гярэплаты). На гэту справу заграніцай здаўна ўжо зьвярнулі ўвагу, тымбольш што такія багатыя на бялкі пашы, як канюшына, люцэрна, сэрадэля сушацца вельмі трудна, а да таго—крышацца і марнуюцца. Нажаль, дагэтуль яшчэ ніхто не знайшоў лепшага спосабу сушэньня, даступнага і для варункаў нашых. Таму агранічымся тут да сьцьверджаньня, што найцэньнейшыя сучасткі расьлін знаходзяцца ў малых, маладых, крохкіх лістках, якія вельмі лёгка і хутка абломліваюцца. Таму пры сушэньні расьлін багатых на бялкі, як канюшына, сэрадэля й інш. трэба як найменш гэтыя расьліны перакладаць з месца на месца каб не паабломываліся.

Як відаць з усяго гэтага, расьлінныя бялкі, хоць яны й вельмі цэнныя, то аднак многа з імі хлопату і што найгорш — гаспадар ніколі ня пэўны, ці яму ўдасца гэтыя бялкі ў парадку атрымаць. Таму асабліва важным ёсьць належна выкарыстаць бялкі жывёлы. У нашых сялянскіх варунках няма чаго гаварыць аб бялкох з мясной мукі. Затое зусім на месцы будзе справа належнага выкарыстаньня поснага малака, атрымоўванага з-пад цэнтрагонкі ў копэратыўных малачарнях ці ў прыватных гаспадарках. Бяда прывучыла нашага чалавека глядзець на гэта малако як на людзкую справу, тымчасам такое малако ёсьць толькі і толькі — пашай для жывёлы.

Летась „Самапомач" пісала аб спробах выкарыстываньня поснага малака як пашы для дойных кароў. Апошнім часам газэты падаюць новы спосаб выкарыстываньня гэтага малака дзеля прыгатаваньня адумысных высокавартасных калачоў. Пякуцца яны з змолатага на муку люцэрнавага сена. „Мука" гэта заліваецца посным малаком і атрымоўваецца густая каша, з якой робяцца калачы і пякуцца ў хлебнай печы пры тэмпэратуры да 70°Ц (ня вышэй). Атрыманыя „калачы" гэта нешта падобнае да макухоў, маюць да 18 прац. бялкоў і могуць перахоўвацца бяз шкоды да 5 месяцаў. Высокая кармовая вартасьць гэтых „калачоў" тлумачыцца і тым, што маюць яны ў сабе не аднародныя бялкі, а мешанку бялкоў расьлінных і жывёліных. Пры ўсім гэтым трэба добра памятаць, што поснае малако мае кармовую вартасьць толькі тады, калі яно сьвежае, салодкае.

Урэшце усім ведамы спосаб выкарыстываньня поснага малака для сьвіней. Гэты спосаб даўна і ўдачна стасуюць данцы. І ён сапраўды добры. Толькі і тут трэба памятаць аб дзьвюх справах:

1. малако павінна быць сьвежае,

2. ня можна яго аднэй штуцы даваць больш, як два літры ў дзень. Інакш — наступіць развальненьне.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# Гаспадарская хроніка

— **Апровізацыя Краю.** У Варшаве 11-га лютага сёл. адбылося 1-ае паседжаньне Камітэту Абароны Рэчыпаспалітай. На гэтым паседжаньні між іншым разглядалася справа арганізацыі апровізаваньня Краю, якое мае сконцэнтравацца каля Міністэрства Земляробства і ў каторым мае быць вызначаны асобны да гэтых спраў Падсэкрэтар Стану (віцэміністр).

Як гэта справа аканчальна будзе ў падробнасьцях сарганізавана, тымчасам ня ведама. Газэты пішуць толькі, што на вызначэньні самага толькі віцэміністра справа ня кончыцца. Гэта найвышэйшая ўстанова павінна аперціся на нізавых арганізацыях земляробскага самаўраду („кулкі," коопэратывы). Заданьнем новай пляцоўкі будзе клапаціцца ня толькі аб павялічэньне прадукцыі, але так-жа аб пераробе сырых прадуктаў, магазынаваньні іх і аб падзеле. Пры ўсім гэтым мае быць выкарыстана практыка Вялікай Вайны, калі цэлыя раёны былі адрэзаны ад асяродкаў земляробскай вытворчасьці.

— **Страхоўка ў земляробстве.** Прыціхшая апошнім часам справа прымусовай страхоўкі ў земляробстве апошнім часам узноў аджывае. У адпаведных кругох разважаюць ужо пытаньне, якая з трох формаў страхоўкі — ад выпадкаў, ад хваробаў ці эмэрытальная— для дробнага земляробства найбольш падходзіць. Гавораць так-жа аб страхоўцы гаспадарскай жывёлы.

— **Браварніцтва аджывае.** Чым для чарназёмных цяплейшых краёў ёсьць цукровы бурак, тым для нашых зямель ёсьць бульба; пры тым бульба ня толькі як успамога хлеба, але такжа як сырэц, з якога выабляецца сьпірт. І ў лепшых прадваенных часах так яно і было: бравары ня толькі забіралі надвышку бульбы, але й давалі селяніну цэнную брагу. Вайна блізу ўсё гэта спыніла. Апошнія весткі паказваюць, што спыненыя ў часе вайны бравары пачынаюць цяпер працаваць, мясцамі ў даўнай форме, а мясцамі ў форме вытворчых коопэратываў. Апошняя форма для сялянства вельмі пажаданая.

— **Цукар пчолам.** Пчаляры могуць даставаць у найбліжэйшых фахова-пчалярскіх арганізацыях танны цукар для сваіх пчол. На адзін пень можна дастаць па два кілёграмы. Арганізаваныя пчаляры плацяць за кілёграм такога цукру па 45 грашоў, а неарганізаваныя — па 50 грашоў. Ідучы па гэткі цукар трэба мець з сабою сьвежае пасьведчаньне з гміны аб тым, колькі ёсьць у пасецы пнёў.

— **Юбілей Райфайзэна.** Сёлета прыпадаюць 50-я ўгодкі сьмерці і 120-я ўгодкі нараджэньня Фрыдрыха Райфайзэна, закладчыка і прапагатара крэдытова-ашчадніцкай коопэрацыі, названай ягоным імем. З асобай і дзейнасьцю Райфайзэна пазнаёмім чытачоў „Самапомачы" ў наступным нумары.

— **Аддзел Агранамічны (Земляробскі)** пры Віленскім Унівэрсытэце пастаноўлена сарганізаваць з дагэтуляшняга Пададдзелу („Studium"). Новая праўная падстава дасьць магчымасьць шырэй і глыбей павесьці працу ў гэтай адзінай у нас школе.



„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.
Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ.
Выдавец: „БЕЛПРЭС"
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.